© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

**ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ!**

20 чэрвеня ЗАКАНЧВАЕЦЦА падпіска на „Газету Слонімскую“ на другое паўгоддзе 1998 года. Па падпісцы наша газета будзе каштаваць танней, чым у розніцу.

**КОШТ падпіскі:**
на месяц — 18 тыс.руб.
на квартал — 54 тыс.руб.
на паўгода — 108 тыс.руб.



# Газета Слонімская

*Газета заснавана ў 1938 годзе. Выходзіць з 1997 года.*

№ 25 (54). Слонім. 19 — 25 чэрвеня 1998 г. Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік Кошт свабодны

## УРАГАН НАД КАСТРОВІЧАМІ



**Мікалай Падгорны**



**Так выглядала адна з ферм комплексу**

У нядзелю, 14 чэрвеня, каля 17 гадзін над вёскай Кастровічы пранёсся ўраганны вецер. Эпіцэнтр стыхіі прыйшоўся на жывёлагадоўчы комплекс "Усход" калгаса «1 Мая». Усе будынкі засталіся без даху, вокан і, часткова, без дзвярэй. Ветрам былі павалены слупы электраліній, дрэвы. Разбурана памяшканне кармацэха.

На шчасце, абыйшлося без чалавечых ахвяр.

Па словах галоўнага заатэхніка калгаса Уладзіміра Кнігі, які быў сведкам стыхіі, ураган бушаваў на працягу 15-20 секунд, але за гэты кароткі час паспеў нарабіць шмат бяды.

–Толькі адышоў ад службовага УАЗа, – расказваў Уладзімір Уладзіміравіч, – як сарваны з даху ліст шыферу упаў прама на аўтамабіль.

На яго думку, каб аднавіць толькі дах усіх будынкаў комплексу, спатрэбіцца больш як пяць тысяч лістоў шыферу, шмат кубаметраў драўніны і іншых будматэрыялаў.

Як паведаміў старшыня калгаса Антон Дабрэнка, нават па самых сціплых падліках, матэрыяльныя страты ад стыхіі складаюць не менш, як дзесяць мільярдаў рублёў.

Пацярпелі дамы і гаспадарчыя пабудовы многіх жыхароў вёсак Кастровічы і Лыскі. Найбольшую шкоду ўраган прычыніў сядзібе Мікалая Падгорнага з Кастровіч:

–Я знаходзіўся на падворку. Раптам шквальны вецер паваліў дровы, а мяне падняў на метр ад зямлі і кінуў на плот. Калі заскочыў у хату, то пачуў, як моцна трашчыць дах. Праз хвілін дзесяць выйшаў на падворак і ўбачыў вывернутыя з карэннем яблыні і дом без даху. Знішчаны і сад маёй суседкі Ганны Якімец.

У вёсцы Лыскі нам паказалі вывернутую з кораням тоўстую таполю дыяметрам паўтара метра.

Каля 7 гадзін раніцы на месцы здарэння пабываў старшыня райвыканкама Станіслаў Здановіч.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



**Прыватная сядзіба пасля буры**

**КАНФЛІКТ**

## НА КПФ ПАДСКОЧЫЛА ТЭМПЕРАТУРА

**На працягу дзвюх гадзін баставалі работніцы прадзільнага цэха камвольна-прадзільнай фабрыкі. Такім чынам 10-га чэрвеня жанчыны выказалі свой пратэст супраць дрэнных умоў працы і нізкай заработнай платы. Па словах прадзільшчыц, тэмпература паветра ў цэху падымаецца вышэй за трыццаць градусаў. Многія работніцы пакуль адпрацоўць змену, амаль губляюць прытомнасць. А заробак за месяц не перавышае двух мільёнаў рублёў.**

Пракаменціраваць страйк карэспандэнт "ГС" папрасіў дырэктара фабрыкі Віктара Галіча.

Ён сказаў, што сапраўды 10 чэрвеня работніцы прадзільнага цэха на працягу дзвюх гадзін не прыступалі да працы, матывуючы гэта тым, што ў цэху вельмі высокая тэмпература. Сам дырэктар у гэты час знаходзіўся ў Мінску, але, даведаўшыся пра забастоўку, тэрмінова прыехаў у Слонім.

–Так званую забастоўку, пра якую паведамілі жанчыны, лічу незаконнай, – сказаў Віктар Галіч. –Паколькі яна супярэчыць дзеючаму заканадаўству аб вырашэнні працоўных спрэчак. Мне вядомы асобы, якія гэтую акцыю арганізавалі, і з імі я буду гутарыць.

Што датычыць высокай тэмпературы ў цэху летам, то з гэтай мэтай мы перыядычна ўключаем кандыцыянеры, каб знізіць тэмпературу паветра да 26 градусаў цяпла.

Але я асабіста лічу, што высокая тэмпература не з'яўляецца галоўнай прычынай інцыдэнта. Гэта адзін са спосабаў прымусіць адміністрацыю да павышэння заработнай платы. Але зрабіць усё не так проста. З-за недахопу сыравіны мы вымушаны цяпер працаваць у адну змену, прычым няпоўны рабочы тыдзень. Адсюль і нізкая заработная плата.

На сустрэчы з працоўным калектывам прадзільнага цэха мы абмяркавалі ўсе спрэчныя пытанні і ў хуткім часе паспрабуем іх вырашыць.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

**НАВІНЫ**

### Новы трэнер

**15 чэрвеня, у панядзелак, савет дырэктароў футбольнага клуба "Камунальнік" прадставіў новага галоўнага трэнера каманды Якава Шапіру.**

Якаў Шапіра – вядомы футбольны спецыяліст, які ў свой час вывеў у флагманы беларускага футбола мінскую "Атаку-Аўру". Апошнім часам ён працаваў у латвійскім клубе "Вентспілс". Аляксей Шубянок застаецца працаваць у нашай камандзе старшым трэнерам.

Інтэрв'ю з Якавам Шапірам чытайце ў бліжэйшых нумарах нашай газеты.

**Сяргей ЁРШ**

**ФАКТ НОМЕРА**

### Чем недовольна прокуратура

"На предприятии ОАО "Слонимский мясокомбинат" имели место нарушения законодательства о ведении кассовых операций с иностранной валютой. Систематически нарушались сроки предъявления в бухгалтерию предприятия отчетов об использованных суммах иностранной валюты и возврата в кассу неиспользованных сумм. К дисциплинарной и материальной ответственности привлечен главный бухгалтер предприятия Н.П.Адамович".

**В.Сыманович, начальник отдела общего надзора прокуратуры Гродненской области**
***("Гродзенская праўда", №69 ад 13 чэрвеня 1998)***

**ЗДАРЭННЕ**

### Загінула ад маланкі

**У нядзелю ад удара маланкі загінула 70-гадовая Вера Мароз, жыхарка вёскі Асабнякі.**

Трагедыя здарылася ўвечары, калі жанчына выйшла на падворак і накіроўвалася ў хлеў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



**ТРЫБУНА**

## ЧАГО БАЯЦЦА ДЭПУТАТЫ?

**На апошняй сесіі гарсавета дэпутаты адмовілі ў акрэдытацыі карэспандэнтаў "ГС". Мы вырашылі даведацца ў жыхароў горада, чаму, на іх думку, дэпутаты не жадаюць, каб сесіі гарсавета асвятляла "Газета Слонімская"?**

***Мужчына, грамадзянін Арменіі, 61 год, нядаўна пераехаў на пастаяннае месца жыхарства ў Слонім:***

–Газету вашу яшчэ не паспеў выпісаць, аднак чытаю яе. Першае, што кінулася мне ў вочы як прыезджаму чалавеку, тое, што ў вас усё значна даражэй, нават газеты. Я ў Арменіі атрымліваў пенсію каля 50 даляраў США і гэтага мне хапала, каб даволі нядрэнна жыць месяц. У Слоніме захацеў набыць чаравікі, а яны каштуюць аж 40 даляраў. Здзівіла яшчэ і тое, што банкі ў вас прымаюць ад насельніцтва любую валюту, але не прадаюць яе. У нас усё наадварот: у любым банку можна купіць валюту, аднак памяняць яе на армянскія драмы ў банку нельга.

***Мікалай Іванавіч, 48 гадоў:***

– Не думаю, што дэпутаты вырашаюць на сесіях вельмі складаныя пытанні і праблемы. Усё вырашаецца ў Мінску. Аднак там на ўрадавых мерапрыемствах прысутнічаюць карэспандэнты ўсіх газет. Мяркую, што і ў нас так павінна быць. Навошта дэпутатам хаваць сакрэты ад сваіх выбаршчыкаў.

***Сяргей, 28 гадоў, жыве на Брэсцкай вуліцы:***

– Уся прычына гэтага, відаць, у тым, што вы ў сваёй газеце пішаце тое, чаго ніколі не напішуць у "Слонімскім весніку". Гэта так зразумела і проста.

***Галіна Мікалаеўна, прадавец:***

– Мусіць, нечага баяцца дэпутаты, калі прынялі такое рашэнне – не дапускаць вашых карэспандэнтаў на свае мерапрыемствы.

***Валянціна, выхавацель дзіцячага садка:***

– Не хочуць дапускаць вас на сесіі таму, што вы пішаце праўду, часам не вельмі прыемную для начальства. А якое, скажыце, начальства любіць крытыку, ды яшчэ калі пра яе будуць ведаць многія слонімцы?..

***Жанчына, на выгляд 30 гадоў:***

–Шчыра кажучы, я далёкая ад палітыкі і на гэтае пытанне адказаць не магу.

***Людміла Мікалаеўна, жыхарка Рышчыц:***

–Ваша газета падабаецца, я яе выпісваю. Уладам, відаць, не падабаецца, што вы ўзнімаеце шматлікія праблемы жыцця нашага горада. А іх трэба вырашаць. Напішыце, калі ласка, яшчэ пра стан вуліц горада, асабліва ў Рышчыцах. Проста жах!

***Валерый Ягоравіч, прыватны прадпрымальнік:***

–Газету вашу не выпісваю, але купляю. Мне вельмі спадабалася, калі яна выйшла на 12 старонках. Пажадана, каб у далейшым яна ўвесь час выходзіла ў такім аб'ёме. Вы часта на старонках "ГС" крытыкуеце кіраўніцтва горада, а гэта ім не падабаецца. Вось таму і не жадаюць улады, каб вашы карэспандэнты прысутнічалі на мерапрыемствах і пісалі пра іх аб'ектыўна. Я цалкам не згодны з гэтым. Слонімцы павінны ведаць пра ўсё, што адбываецца ў горадзе і раёне на самой справе, а не прыгладжана.

**(Працяг на 2 стр.)**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# ЧАГО БАЯЦЦА ДЭПУТАТЫ?

***Іван Іванавіч, вадзіцель:***

–Вы праўдзіва асвятляеце тое, што адбываецца ў горадзе і раёне. А праўда, асабліва, калі яна непрыемная для тых людзей, каго датычыць, заўсёды выклікае ў іх адмоўную рэакцыю. Відаць, у гэтым заключаецца галоўная прычына таго, што вашым карэспандэнтам не дазваляюць прысутнічаць на сесіях.

***Мужчына, на выгляд 55 год:***

–Прабачце, нічога не магу адказаць на ваша пытанне. Я – грамадзянін Югаславіі і ў Слоніме знаходжуся ў гасцях.

***Мікалай, рабочы КПФ:***

–Лічу, што прычына забароны друкаваць вашу газету і прадаваць яе ў крамах горада, а зараз і забарона прысутнічаць карэспандэнтам на сесіях, адна і тая ж – праўдзівы паказ падзей, якія адбываюцца ў горадзе. Але дзякуючы "Газеце Слонімскай" мы часам даведваемся пра тое, чаго ніколі не ведалі б. Асабліва падабаецца першая старонка вашай газеты, дзе друкуюцца тыднёвыя навіны і здарэнні.

***Генадзь Уладзіміравіч, работнік КПФ:***

–"Газету Слонімскую" чытаю ўважліва. Нешта мне падабаецца, а штосьці і не. Вы, чамусьці, ні слова не напісалі пра свята іконы Маці Божай Жыровіцкай, у той час як рэспубліканскія газеты пра гэта расказалі. А наконт таго, што вашу газету ў многім абмяжоўваюць, то тут няма нічога дзіўнага – такая наша дзяржаўная палітыка. Не ўсім падабаецца праўда.

***Ірына Віктараўна, жыхарка Тапалёвай вуліцы:***

–Абюракрачаных чыноўнікаў яшчэ вельмі шмат і ў нашым горадзе. А яны, вядома, праўды не любяць. Вось вам і ўвесь адказ на ваша пытанне.

***Маладая жанчына, працуе ў СШ №2:***



–вялікім задавальненнем чытаю вашу газету. Адказваючы на пытанне, хачу адзначыць, што ў нас, як быццам, існуе дэмакратыя і свабода слова, аднак за слова цяпер можна нават трапіць за краты.

***Дзве маладыя жанчыны, на выгляд 35 гадоў, работніцы прадзільнага цэха КПФ:***

–Прабачце, але імёнаў сваіх называць не будзем. Вашых карэспандэнтаў дэпутаты не хочуць дапускаць на сесіі, відаць, таму, што баяцца праўды, якую праз газету будуць ведаць у горадзе.

**Апытаў Валянцін ЧУРЫЛА**
**Фота Мікалая СУПРУНА**

ГОРАД нашы традыцыі

# Ці пачуем знаёмы паланез?




**Слонімскія пажарныя. Фота 1916г.**

Жыхаркі нашага горада Ванда Міхайлаўна Харко і Данута Гаўрылаўна Ракевіч расказалі мне нядаўна цікавую гісторыю.

Аказваецца, што ў даваенны час у Слоніме штодзённа з вартавой вежы двойчы ўдзень гучала мелодыя паланеза Міхала Агінскага "Развітанне з Радзімай".

Высветлілася, што пра гэта жанчыны даведаліся ад старажылкі Слоніма Ніны Пятроўны Лукашэйка з Камсамольскай вуліцы.

Яна ахвотна расказала, што добра памятае, як у даваенныя гады са сваімі сяброўкамі бегала да будынка пажарнай аховы, які і зараз знаходзіцца на вуліцы Хлюпіна, каб паслухаць музыку Міхала Агінскага, якая двойчы ў дзень — у 8 і 20 гадзін, гучала з вартавой пажарнай вежы.

Каб пераканаць нас у праўдзівасці свайго аповеду, Ніна Пятроўна паказала кніжку на польскай мове, дзе я прачытаў, што у 1897 годзе ў Слоніме было заснавана дабраахвотнае пажарнае таварыства, якое мела дзве аўтапомпы, вартавую вежу і адзіны ў горадзе духавы аркестр. Адзін з музыкантаў іграў на трубе паланез Міхала Агінскага.

Жанчыны выказалі жаданне аднавіць гэтую традыцыю зараз, перад святам пажарнай службы, якое будзе адзначацца ў ліпені.

Начальнік ваенізіраванай пажарнай службы Васіль Рубец, выслухаўшы прапанову жанчын, паведаміў, што пытанне аб стварэнні духавога аркестра пажарнай службы ўжо абмяркоўваецца. А каб аднавіць традыцыю, якая існавала шмат гадоў назад і з'яўляецца часткай гісторыі Слоніма, Васіль Рубец паабяцаў звярнуцца па дапамогу ў гарвыканкам. Магчыма, пройдзе пэўны час, і слонімцы зноў пачуюць над горадам чароўныя гукі мелодыі нашага славутага земляка Міхала Агінскага.

**Валянцін ЧУРЫЛА**


















ГОРАД

## Трывога была дарэмнай

**У апошні час у Слоніме імкліва распаўсюдзіліся чуткі пра павышэнне ўзроўню радыяцыйнага фону.**

Гэтая тэма адразу апынулася ў цэнтры ўвагі рэспубліканскіх сродкаў масавай інфармацыі. Аднак, як піша "БДГ", работнікі ўсіх інстанцый, якія адказныя за кантроль над радыяцыйнай сітуацыяй, паведамілі, што трывога была дарэмнай. Тым не менш, метэаралагічныя службы Францыі, Балгарыі, Польшчы і некаторых іншых еўрапейскіх краін зафіксавалі рэзкае павышэнне цэзію-137 у атмасферы над іх тэрыторыямі.

Па словах супрацоўніцы слонімскай санэпідэмстанцыі Таццяны Лысенка, радыяцыйная сітуацыя ў Слоніме не мянялася і застаецца на ўзроўні бяспечнай для здароўя чалавека. Штодзень супрацоўнікі санэпідэмстанцыі праводзяць замеры радыяцыі на Слонімшчыне, якая вагаецца ў межах дазволенага (ад 0,010 да 0,014 мр/г). "Таму няма ніякіх падстаў для хвалявання", – заявіла Т.Лысенка.

**Сяргей ЁРШ**

НАВІНЫ

## Прыемны сюрпрыз

Ў Жыровіцкім тэхнікуме прайшлі тры выставы: "Стары беларускі ручнік" (арганізатар – Лідзія Рыжанкова), "Гравюры Напалеона Орды", прысвечаная 200-годдзю са дня нараджэння Адама Міцкевіча (арганізатар – Ігар Падгарадзецкі) і выстава жывапісных работ мастака-аматара Пятра Адамчыка.

Апошняя экспазіцыя з'явілася прыемным сюрпрызам для навучэнцаў і выкладчыкаў тэхнікума. Жыровіцкія пейзажы Адамчыка ўражваюць высокім майстэрствам.

**Іван ХАХЛОЎ**

ГОРАД Наша спадчына

# РАСТУЦЬ СЦЕНЫ ХРАМА

Ужо тры гады ў Слоніме будуецца, а дакладней, аднаўляецца Спаса-Прэабражэнскі сабор, які быў разбураны ў гады савецкай улады. Як і ў мінулым стагоддзі, так і цяпер, усе работы праводзяцца на ахвяраванні прыхаджан, прадпрыемстваў і арганізацый. Дваццаць восем рабочых на чале з брыгадзірам Яўгенам Александровічам узводзяць сцены храма. Часта тут можна бачыць і айца Віктара, які аднаўляе ўжо не першы праваслаўны храм на Слонімшчыне.

Наперадзе яшчэ шмат працы, але трэба спадзявацца, што Спаса-Прэабражэнскі сабор зноў стане сімвалам праваслаўнай веры.

**Сяргей ЁРШ**
**Здымкі Мікалая СУПРУНА**








**На здымках:**

*айцец Віктар і брыгадзір Яўген Александровіч звяраюць праект з будаўніцтвам.*

*Будаўнікі, якія ўзводзяць сабор.*

CS
Компьютеры и оргтехника
тел: 4-18-27

Ремонтируем и изготавливаем мягкую мебель. Переделываем обыкновенные комплекты на угловые.
Материалы свои и заказчика.
Тел. 4-22-77, 4-18-03, 5-21-89

У ВАС ЕСТЬ АВТОМОБИЛЬ?
Тогда самый лучший подарок вашему «другу»
велюр на чехлы и оббивку салона
Магазины «SH»
(ул. Черняховского, 8; пл. Ленина, 11)
Тел. 4-24-91
➠ рукавицы рабочие х/б
( от 12 до 24 тыс. руб.)
➠ футболки х/б в ассортименте
Приглашаем!!!

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.1997г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК.

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэл. 2-14-39.
E-MAIL:gs@irex.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.

Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 18 чэрвеня 1998 г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісны індэкс 64042.
Наклад 6.600 экз.
Заказ №1866
© «Газета Слонімская». Спасылка на «ГС» абавязковая.
Ⓚ Матэрыялы публікуюцца на правах рэкламы

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



**ПОШТА** *Пытанне рубам*



Вновь очень просим, пусть, наконец, власти ответят через вашу газету, когда наконец мы, жители Альбертина по ул. Барановичской, пер. Светлого, пер. Космонавтов, пер. Барановичский и другие, будем жить по-человечески? Городские автобусы не ходят, в магазины добираемся за 2 км, газа нет, воды и канализации нет. Мы же, как и все, платим за дороги, а ездить по них невозможно. Говорят, выделили нам деньги на газ, а их отдали на газификацию поселка в Грибово, потому что там строят себе коттеджи начальники. У нас терпение кончилось, мы соберем все письма, что писали вам, в горсовет и отправим их в Минск. На этот раз мы собрали 500 подписей.

**С уважением, жители Альбертина**



**ІНФАРМБЮРО**

Смертелен ли укус лесного клеща?
**В.Комар, житель Слонима**

## Лесной клещ опасен

Клещевой энцефалит – острое вирусное инфекционное заболевание, передающееся человеку через укус лесного клеща или через сырое молоко покусанных клещами коз и коров. Начинающееся с озноба, головной боли, затем присоединяется тошнота, головокружение, бессонница, ноющие боли в конечностях. Лихорадочное состояние держится 4-5 дней, после чего временно исчезает, чтобы через 1-2 недели возобновить в виде поражения мозговых оболочек: наряду с сильной головной болью, светобоязнью, болями по ходу позвоночника, иногда судорожные припадки.

При посещении леса нужно одевать одежду, плотно прилегающую к телу, защищающую от заползания клещей. Обнаружив на одежде клеща, следует его стряхнуть, но не давить. При обнаружении на себе присосавшегося клеща, его и 3-5 см кожи вокруг следует смазать вазелином или кремом и залепить лейкопластырем. Через 4-5 часов повязку с клещом снять и сжечь.

При укусе клеща необходимо обращаться к врачу в 12 кабинет райполиклиники или в Слонимский центр гигиены и эпидемиологии. Тел. 2-17-81, 2-47-86.

**Таисия ПЕТРУШКЕВИЧ, помощник врача эпидемиолога**



**ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ГАЗЕТЫ**

## Выстава

Па ініцыятыве Слонімскага акруговага аддзела Беларускага Культурнага Згуртавання ў красавіку ў Слоніме была арганізаваная выстаўка беларускіх вышыванак. На выстаўцы былі паказаныя кашулі, блузкі, ручнікі, абрусы, вытканыя і вышытыя рукамі нашых сялянак.

**Новы Шлях (Мінск), №9 (45), травень 1944 г.**

## Як мужыкі з судом ваявалі

З Кастровіцкай воласці, Слонімскага ўезда. Нашы мужыкі калісь думалі, што несправядлівасць па валасных судах пануе дзеля таго, што суддзі не атрымоўваюць пенсіі. Прыйшоў час, што прыказалі даць суддзям пенсію, а крыўды не толькі не вывелі, але і не паменшылі. Усё-такі крыўда ляжыць у той самай кішэні, дзе і грошы. Падумалі мужыкі, пагаравалі, дый напісалі на сходцы прыгавор, каб суддзям не плацілі больш пенсіі. Але што ж ... сходка сходкаю, з'езд адмяніў гэты прыгавор.

Павеяла вясною, ажыў божы свет, і ажылі надзеі мужыка. Дачакаўся ён новай Думы, але жаданні ў яго старыя: "Зямлі і волі". "Кажуць, прыйдзе Воля, хоць ідзе марудна", – спяваецца ў песні. але пакуль гэтая Воля марудзіць, пакуль шукаюць дзесьці Зямлі, мужык наш сядзіць у халадзе, голадзе і цямнаце.

**Міхалка Берэньбедзя**
**"Наша Ніва" №14, 6 (19) красавіка 1907г.**

**ГОРОД** *Наши люди*

# ПРОФЕССИОНАЛИЗМ

Время перевалило за полночь, когда в приемное отделение больницы был доставлен тяжелобольной с закрытой травмой живота.

В то время по хирургическому отделению дежурил заведующий Василий Кравченко. Внимательно осмотрев больного, хирург заключил:

–Нужна срочная операция...

Все в дежурной смене пришло в движение. Старшая операционная медсестра Нина Сай подготовила необходимый инструмент. Медицинские сестры Валентина Комар и Ирина Михалькевич доставили пациента в операционную. Василий Романович приступил к сложной и многочасовой операции.

У операционного стола слаженно, понимая друг друга с полуслова, работали врачи, медсестры. Опытные, умелые руки хирурга более трех часов уверенно делали привычное дело.

И вот все осталось позади. Операция прошла успешно. Врачи сохранили еще одну жизнь.

–Этот случай, – сказал в беседе заведующий отделением, – обычный в повседневной нашей работе. А слова благодарности, высказанные больным или его близкими родственниками, пожалуй, самая большая награда для врачей.

Нередко мы говорим: человек славен трудом. Каждое доброе дело им славится. Вот и профессионализм заведующего хирургическим отделением Василия Кравченко основан на его призвании.

В год В.Кравченко делает до трехсот операций. И все они, как правило, проходят без осложнений.

Не удивительно, что заведующий отделением систематически пополняет знания, совершенствует практические навыки. Он требователен к себе и подчиненным.

–Я не новичок в хирургии, – делится своими наблюдениями старшая операционная медсестра Нина Сай. – Но проработав рядом с Василием Романовичем более двух десятилетий, поняла: надо постоянно и многому учиться, совершенствовать свои профессиональные навыки. Огромное спасибо ему за то, что он создал в отделении для этого все условия, щедро передает знания, свой богатый опыт подчиненным.

И в самом деле. Под стать заведующему в отделении трудятся настоящие подвижники от медицины. Это врачи высшей категории, хирурги от Бога Николай Коншин, Борис Слезник и Иван Ключук, врачи-хирурги первой категории Сергей Окунь и Николай Десюкевич. Молодой врач, но уже преуспевающий в хирургии Дмитрий Бурсевич.

Разумеется, как бы профессионально не была сделана операция, исход выздоровления больного в немалой степени зависит от медсестер Галины Курган, Натальи Лава, Ирины Михальчиковой, Натальи Коншиной, Валентины Комар, Лилии Муха, Елены Однолетковой. Постоянную чистоту и порядок в палатах, во всех помещениях поддерживают неутомимые труженицы-санитарочки, которых уважительно все величают Ивановна и Николаевна. А фамилии их – Сумма и Хмарик.

**Иван ЧУГУЕВ**

**НАВІНЫ**

## Телефонные разговоры вновь подорожают

**Министерство связи Беларуси вышло в Министерство экономики с предложениями об очередном повышении тарифов на свои услуги (предыдущее повышение на 10% произошло 10 марта с.г.).**

Об этом сообщил в интервью официальной газете «Советская Белоруссия» министр связи Владимир Гончаренко. По его словам, предполагается поднять на 20% плату за телефон (абонентную и повременную), междугородные разговоры по стране, пользование городскими таксофонами и радиоточками. Подорожает также стоимость одного слова в телеграммах, пересылка почтовых карточек, писем и бандеролей. Министр объяснил необходимость повышения тарифов низкой рентабельностью работы отрасли – по его данным, затраты городской и сельской телефонной сети окупаются только на 76%, а отдельно по селу и того меньше – на 28%. Основной прибыльной услугой являются международные разговоры.

**БелаПАН**

# НАШИ ВРАЧИ ПОЕДУТ В МИНСК

**На 1-ый республиканский съезд врачей Беларуси, который пройдет в Минске 25-26 июня, делегатами выбраны главный врач райбольницы Александр Гулинский, главный врач психоневрологического диспансера Александр Кондровский, врач-стоматолог Людмила Бахар, участковый врач-терапевт Галина Моисеенкова.**

По словам заместителя министра здравоохранения Ларисы Соколовской, основными предпосылками для проведения съезда стало резкое ухудшение в последние годы состояния здоровья населения и неуклонное снижение продолжительности жизни, которая сегодня составляет: у мужчин – 64 года, у женщин – 74,3 года, что значительно ниже показателей развитых стран. Это положение, отметила Л.Соколовская в интервью БелаПАН, усугубляется постоянным повышением уровня смертности и снижением рождаемости: показатель смертности превышает показатель рождаемости, начиная с 1993 года. Заместитель министра отметила также, что за последние годы значительно возросло количество так называемых «социальных заболеваний» – туберкулезом, сифилисом, ВИЧ-инфекцией, заболеваниями сердечно-сосудистой системы. Сказывается на здоровье населения и ухудшение качества питания, особенно это ощущается в сельской местности.

**Наталья ФУРСОВА**

# ПЕНСИИ БУДУТ НАЧИСЛЯТЬСЯ ПО-НОВОМУ

Парламент Беларуси одобрил законопроект о внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь «О пенсионном обеспечении». Документ предусматривает изменение порядка начисления социальных пенсий, пенсий, назначаемых по случаю потери кормильца, в том числе лиц рядового и командного состава органов внутренних дел, если смерть их наступила при исполнении служебных обязанностей. К пенсиям по случаю потери кормильца вводится надбавка детям-инвалидам до 16 лет, инвалидам второй группы с детства. Законопроект предусматривает увеличение пенсионной надбавки с 10 до 40% минимального размера пенсии донорам. Изменяется порядок выплаты пенсии лицам, находящимся в местах лишения свободы. Теперь она будет выплачиваться в размере 10% от назначенной пенсии, но не менее 20% минимальной пенсии по возрасту. Кроме того, если размер их пенсии будет превышать стоимость содержания в местах лишения свободы, им будет выплачиваться эта разница. Реализация данного законопроекта предусматривает выделение из бюджета дополнительно 25,6 миллиарда рублей в месяц при том, что на сегодня долг субъектов хозяйствования в Фонд социальной защиты населения составляет около 2 триллионов рублей.

**БелаПАН.**


Kodak
Фото на паспорт
за 5 минут
КРАСНОАРМЕЙСКАЯ, 23
(Здание паспортного стола, вход со двора)
с 9.00 до 17.00
ВЫХОДНЫЕ: воскресенье, понедельник
Kodak

Мука высший сорт, сахар от 25 кг.
с доставкой по городу и району
т. 4-23-83 4-18-59

Свадебные, вечерние наряды
Производства США Канады
Ул. Танкистов, 22
Тел. 4-20-00

ТРЕБУЮТСЯ
РАБОЧИЕ ПО СПЕЦИАЛЬНОСТЯМ:
- штукатуры,
- плиточники-облицовочники,
- столяры
тел. 2-75-00
- главный механик швейного и трикотажного оборудования
- агент маркетинга (до 25 лет, мужчина, частые командировки)
тел. 2-65-55, 2-44-99

Арендное предприятие "АВТОБУСНЫЙ ПАРК №2" г.Барановичи организует 12-ТИ ДНЕВНЫЙ ОТДЫХ на Черном море в пансионате "Жемчужина".
Стоимость путевки на июнь 90 дол. США и 2 млн. руб.
Тел. для справок в Барановичах 5-11-03.

Уважаемые слонимчане и гости нашего города!
Приглашаем Вас посетить новый магазин АРАНТ
Только здесь Вы сможете приобрести по ценам доступным Вам:
телевизоры марки "Горизонт" (гарантия 18 мес.)
различные виды радиоаппаратуры,
радиодетали и многое другое.
принимаем радиоаппаратуру на комиссию,
поставляем радиоаппаратуру под заказ.
Слоним, ул. К. Маркса, 38. Тел. 2-57-80.

СВЕТЛАНА
БАР ПРИГЛАШАЕТ на постоянную работу: повара, бармена, официанта.
Оплата труда по договоренности.
Мы находимся по адресу: Ершова, 50.
Тел. 2-54-05, 2-55-00.

FIRMA ILONA
продаем САХАР
тел. в Лиде 4-79-74


© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



НАША СПАДЧЫНА

# ЯК ЗНІШЧЫЛІ ЦЭЛЫ РОД

**Нас, беларусаў, часта хочуць пераканаць, што Беларусь не мела ні сваёй дзяржаўнасці, ні сваіх герояў, ні сваёй гісторыі. Але гэта, мусіць, таму, што тыя асобы проста не ведаюць сапраўднай гісторыі Беларусі, якая на працягу некалькіх апошніх стагоддзяў знішчалася. Гінулі як асобныя слаўныя сыны і дочкі Беларусі, так і цэлыя роды, ад якіх у многім залежала эканамічнае і палітычнае становішча Беларусі. Прыклад таму — вядомы род Валовічаў, карані якога знаходзяцца на Слонімшчыне.**

### Генеалагічнае дрэва Валовічаў

Аб тым, што Валовічы былі прыкметнымі асобамі на Беларусі і з'яўляліся яе сапраўднымі патрыётамі, сведчыць іхняе генеалагічнае дрэва.

Беларускі шляхецкі род Валовічаў валодаў маёнткамі ў Гродзенскай, Магілёўскай, Мінскай і Ковенскай губернях.

Некаторыя прадстаўнікі гэтага роду:

Грынька Ходкавіч (Рыгор Фёдаравіч) – канюшы Вялікага Княства Літоўскага з 1451 года, гараднічы гарадзенскі (1488-1495г.), упершыню названы Валовічам у грамаце 1499г;

Рыгор Грынькавіч – староста Слонімскі (1560-1584г.);

Уладзіслаў Валовіч – гетман Вялікага Княства Літоўскага, удзельнік войнаў з Расіяй (1632-1634 і 1654-1667г.г.).

Каб уявіць характар гэтага чалавека і зразумець, за што ён змагаўся, звернемся да гісторыі.

У 1654 годзе войска рускага цара Івана Міхайлавіча ўварвалася на Беларусь. Частка беларускіх зямель стала правінцыяй Маскоўскай дзяржавы, дзе правілі ваяводы. Умацоўвалася і пашыралася праваслаўная царква, тады як беларускія ўніяты апынуліся па-за законам, знішчалася карэннае насельніцтва. Праехаўшы дарогамі Панямоння, каралеўскі сакратар Стэфан Мяоркша яшчэ ў 1563 годзе адзначыў, што "там трупаў на дарогах поўна, вёскі, мястэчкі, сядзібы папаленыя, бедную хатку цяжка пабачыць цэлай".

Усё гэта выклікала шырокае народнае супраціўленне, разгарнуўся партызанскі рух, у выніку якога царская ўлада скідалася сілай. Як адзначыў аўстрыйскі дыпламат А.Маерберг, які праязджаў тады праз тэрыторыю Беларусі, здзекі і гвалт маскавіцян так адвярнулі ад іх сэрца гэтых народ, што ён "выгнаў іх са сваіх земляў з вялікай нянавісцю".

Значнае месца ў гісторыі Беларусі займае Яўстафій Валовіч. Ён быў вельмі адукаваным чалавекам. Скончыў Падуанскі універсітэт у Італіі, з 1579 года з'яўляўся канцлерам Вялікага Княства Літоўскага, што абвяргае зацяганы штамп савецкіх гісторыкаў, быццам беларусамі ўвесь час кіравалі чужынцы. Яўстафій Валовіч актыўна ўдзельнічаў у аграрнай, судова-адміністрацыйнай і іншых рэформах. Ён быў адным з тых арганізатараў, хто займаўся падрыхтоўкай першай дэмакратычнай Канстытуцыі на тэрыторыі Заходняй і Усходняй Еўропы – Статута Вялікага Княства Літоўскага 1566 года,– якая была напісана на беларускай мове. Гэты палітычны і грамадскі дзеяч шмат зрабіў для пашырэння на Беларусі адукацыі, ведаў, кнігадрукавання. На ягоныя сродкі заснавана Нясвіжская друкарня.

Яўстафій Валовіч – актыўны праціўнік аб'яднання Вялікага Княства з Каронай (каралеўскай Польшчай), адзін з лідэраў апазіцыі пры заключэнні Люблінскай уніі 1596 года, бо ён разумеў, што унія з цягам часу знішчыць беларускую дзяржаву. У гэты час Яўстафій Валовіч прымае пратэстанцкую веру. З дапамогай пратэстанцкай веры ён разам з іншымі шляхцічамі – свядомымі беларусамі – жадаў захаваць адасобленасць сваёй дзяржавы ад каталіцкай Польшчы. Яўстафій Валовіч вядомы і тым, што гуманістычна-хрысціянскі запавет "любові да бліжняга" пашыраў і на сваіх падданых – чэлядзі і сялян.

### Апошні з роду Валовічаў

Апошні з роду Валовічаў Міхаіл Казіміравіч нарадзіўся 18 чэрвеня 1806 года ў маёнтку Парэчча на Слонімшчыне. Ён не толькі нястомны прыхільнік самастойнасці Беларусі, але і адзін з першых беларускіх рэвалюцыянераў. Ён выступаў за адмену прыгону і бязвыплатную перадачу зямлі сялянам у калектыўную ўласнасць, за абвяшчэнне Беларусі і Літвы дэмакратычнымі рэспублікамі, за права кожнага народа на самастойнае развіццё. Сродкам дасягнення дэмакратычнага і справядлівага грамадскага ладу лічыў сацыялістычную рэвалюцыю агульнаеўрапейскага маштабу.

У 1830-31 гадах на тэрыторыі Польшчы і Беларусі пачалося паўстанне супраць рускага царызму. Міхаіл Валовіч далучаецца да паўстанцаў, ваюе ў атрадзе генерала А.Гелгуда. Мабыць, разам са сваімі аднадумцамі спяваў ён "Песню беларускіх жаўнераў":

Помнім добра, што рабілі,
Як нас дзёрлі, як нас білі.
Дакуль будзем
так маўчаці?
Годзе нам сядзець у хаце!

Трэба сказаць, што Міхаіл Валовіч пазней крытычна ацаніў гэтае паўстанне, якое, на яго думку, не мела "агульначалавечай мэты", бо выказала ў асноўным інтарэсы шляхты. Ён лічыў, што ў барацьбе асноўнай сілай павінны быць народныя масы, пераважна сялянства.

У 1831 годзе, пасля таго, як паўстанне было задушана рускімі войскамі, Міхаіл Валовіч эмігрыраваў у Францыю, а ў сакавіку 1833 года ў якасці паўстанцкага начальніка Слонімскага і Навагрудскага паветаў тайна прыбыў на Беларусь, каб разам са сваімі сябрамі распачаць новы паўстанцкі рух на тэрыторыі Беларусі, Польшчы, Літвы і Украіны.

У ваколіцах свайго Слонімскага маёнтка ён стварыў партызанскі атрад, у які ўваходзілі пераважна сяляне вёсак Барташы і Парэчча. У траўні 1833 года царскія войскі гэты атрад разбілі, а самога Міхаіла Валовіча арыштавалі. Бацькаўшчыне ён аддаў усё: і сваю кар'еру, і сваё багацце, і сваё жыццё.

Другога жніўня 1833 года Міхаіл Валовіч у 27-гадовым узросце быў павешаны ў горадзе Гродна. Так быў знішчаны старажытны беларускі род.

### Замест пасляслоўя

Памятаю, як расказвалі старажылы-парэчанцы, што Міхаіл Валовіч быў чалавекам незвычайнай сілы. Ён мог разгінаць конскія падковы. Калі ж Міхаіла арыштоўвалі, то ніхто з царскіх жаўнераў (яны ведалі пра сілу гэтага беларускага юнака) не наблізіўся да яго, каб надзець кайданы. І тады Міхаіл Валовіч папрасіў, каб гэта зрабіў ягоны любімы і самы верны чаляднік. А яшчэ старажылы ўзгадвалі, як аднаго разу, ратуючыся ад пагоні, ён на кані скочыў са стромага берага Нёмана і разам з канём пераплыў раку. А тады на Нёмане ўжо пачаўся крыгаход...

**Аляксей ЯКІМОВІЧ**

ГІСТОРЫЯ СЛОНІМСКАГА СПОРТУ

# У СПОРЦЕ ТРЭБА БЫЦЬ ВЯЛІКІМ ПЕДАНТАМ...



**У пасляваенны час на Слонімшчыне вырасла цэлая кагорта выдатных спартсменаў. Адны з іх дасягнулі вялікіх спартыўных вышыняў, другія ж яркімі знічкамі бліснулі на кароткі час і зніклі са спартыўных даляглядаў... У кожнага быў свой непаўторны лёс. І прыкра, што многія з нашых землякоў-спартсменаў забытыя. Таму і спрабуем мы знаёміць чытачоў "ГС" з іх няпростымі лёсамі і спартыўнымі дасягненнямі.**

Вячаслаў Сцяпура нарадзіўся ў 1935 годзе ў Шылавічах у сям'і настаўніка. У школу пайшоў у 1943 годзе ў Слоніме — вучыўся беларускай мове на лацінцы. Але, скончыўшы першы клас, ён вымушаны быў у 1944 г. зноў пачынаць усё спачатку — пайшоў ужо ў савецкую школу, вучыўся на кірыліцы, вывучаў рускую мову...

У тыя першыя пасляваенныя гады сталінізм усталяваўся на Слонімшчыне, не спыняліся рэпрэсіі супраць іншадумцаў. Не хаваў сваіх антыпатый да ўлады і маленькі Вячаслаў — за гэта дасталося і яму, і яго бацькам...

У спорт Вячаслаў Сцяпура прыйшоў, у некаторай ступені, выпадкова. Быў ён працавітым хлопчыкам, захапляўся авіямадэлізмам (па словах Сцяпуры, яго мадэль самалёта "першая паляцела ў Слоніме"). А ў 6 класе Вячаслава неяк накіравалі на спаборніцтвы па лёгкай атлетыцы. Адпіраўся ("ды я бегаць не ўмею!"), але ўсё ж пайшоў. І заняў першае месца на школьных спаборніцтвах на дыстанцыі 100 метраў. Усіх абагнаў!

Пасля гэткага поспеху паверыў у свае сілы, пачаў спрабаваць бегаць на 200, 400 метраў, на 1 кіламетар. І зноў паспяхова, стабільна паказваў добрыя вынікі, выконваў 3-ці разрад. У 1951 годзе Вячаслаў Сцяпура займае 3-е месца ў Слонімскім раёне ў спаборніцтвах па шматбор'ю сярод юнакоў. А на дыстанцыі 400 метраў яму не было роўных.

— І вось цікавая рэч, — успамінае Сцяпура, — мне здавалася, што мяне ніхто ніколі не абгоніць. Стэрэатып такі выпрацаваўся, і не дзіўна, бо ў вобласці я быў першы, у рэспубліцы — таксама. На апошніх спаборніцтвах перамог вядомага спартсмена, які пасля ўваходзіў у зборную Савецкага Саюза. Ён выдатна бегаў на 400 метраў, але я яго абагнаў...

Нарматыў майстра спорту В.Сцяпура не выканаў, але 2 і 1 разрады яму аказаліся па сілах. Праблема была ў трэніроўках, якіх не хапала. У Слоніме тады быў толькі адзін добры трэнер — Хрэшчыкаў. Іншы раз у бацькоў не хапала грошай, каб купіць Вячаславу абутак — у нечым трэба было ехаць на рэспубліканскія спаборніцтвы... А яшчэ — невялікі рост. Аднак да Кіева ўсё было добра.

У 1953 годзе Сцяпура заняў 1 месца ў бегу на 400 метраў на 7-й Усебеларускай спартакіядзе школьнікаў (старэйшая група). Паехаў на ўсесаюзныя спаборніцтвы лёгкаатлетаў у Кіеў, дзе быў толькі дзевятым. Вячаслаў вельмі перажываў гэтую няўдачу, згубіў былую ўпэўненасць. Хутка ён быў прызваны ў войска, дзе яго спартыўны талент зноў раскрыўся, набыў другое дыханне. Сцяпура быў чэмпіёнам Акадэміі сувязі ў Ленінградзе і Ленінградскай ваеннай акругі на дыстанцыі 400 метраў.

А пасля так склалася, што Вячаслаў звязаў свой лёс з медыцынай. `Пасля таго, як вярнуўся з войска, яму прапанавалі паступіць у медвучылішча, нават на любых умовах. Але Сцяпура "на халяву" не паступаў — не дазваляла сумленне. Месяц рыхтаваўся. Вучыўся добра, удзельнічаў у самадзейнасці, ездзіў за медвучылішча на розныя спаборніцтвы, дзе зноў браў прызавыя месцы.

Скончыўшы медвучылішча, Вячаслаў Сцяпура працаваў у раймедаб'яднанні, на "хуткай дапамозе". Неўзабаве скончыў і медінстытут, 10 гадоў аддаў ваеннаму шпіталю ў Паўлінава. Цяпер — на пенсіі. Сцяпура перанёс тры інфаркты, але спорт і сёння выратоўвае, дае імпульс да жыцця.

—Калі б прыйшлося выйсці са сваімі аднагодкамі на дыстанцыі 60, 100 метраў (бо 400 ужо не пацягну), дык лёгка перамог бы, — кажа Вячаслаў Фёдаравіч, — засталіся яшчэ сілы, былая загартоўка...

А яшчэ Вячаслаў Сцяпура — вядомы фотааматар. Спрабуе пісаць успаміны, бо ёсць што ўспомніць, асэнсаваць.

—У спорце трэба быць вялікім педантам, — гаворыць ён, — асабліва па маладосці. Бо лішнюю чарку кінуў, не паспаў ноч перад спаборніцтвамі — і ўжо не тая кандыцыя. Рэжым павінен быць! Хай пачуюць мяне, былога спартсмена і ўрача, нашыя сённяшнія спартыўныя зоркі. Шанаваць сябе трэба ў маладосці і не паўтараць памылак старэйшых. Бо колькі прыкладаў ёсць, як нашыя спартсмены, якія дамагаліся добрых вынікаў, нечакана зніклі са спартыўных даляглядаў...

**Сяргей ЁРШ**

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016



# СВЯТА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

**16 чэрвеня завяршыўся турнір па міні-футболу на Кубак касцёла св.Андрэя сярод дзіцячых каманд.**

У турніры ўдзельнічала 46 каманд, у якіх гуляла каля 500 дзяцей (!). Футбольныя калектывы былі падзелены на дзве ўзроставыя групы: старэйшую (хлопчыкі да 1980 года нараджэння) і малодшую (да 1984 г.н.). Усе матчы прайшлі ў вельмі ўпартай барацьбе. Як і ў мінулым годзе, так і ў гэтым "дваровыя" каманды на добрым узроўні канкуравалі з камандамі спартыўных школ.

Але галоўныя падзеі на турніры адбыліся ў апошні дзень, калі ішла барацьба за прызавыя месцы. Спачатку ў малодшай групе футбалісты слонімскай ДЮСШ-2 перакаНаўча перайгралі з лікам 3:0 "Талант-Дынама" і заваявалі трэцяе месца. У старэйшай групе трэцяй стала каманда "Спартак" (вуліца Тапалёвая), якая перамагла СКІФ (вуліца Даватара) па пенальці — 3:1 (асноўны час закончыўся ўнічыю — 0:0).

У фінале сярод малодшых за першае месца змагаліся "Дынама" і "Марыя". Дынамаўцы паказалі тэхнічны, атакуючы футбол, а галоўнае — забілі прыгожыя галы: па два ў кожным тайме. У выніку — перамога з лікам 4:0. Дарэчы, выхаванцы Руслана Карнева на турніры паказалі выдатны футбол: 8 перамог у 8 матчах, забіта 59 і прапушчаны толькі 1 мяч. За каманду-пераможцу выступалі: Сяргей Берг, Сяргей Пячура, Сяргей Скляр, Андрэй Герка (к), Аляксандр Боцік, Сяргей Осіпаў, Андрэй Бакумцаў, Аляксандр Кузміч, Ігар Карней.

У старэйшай узроставай групе ў фінале ігралі "Марыя" і "Штутгарт" (вуліца Тапалёвая). Ва ўпартай барацьбе перамаглі выхаванцы Мікалая Лажэчнікава і Аляксандра Гусарава. Юныя футбалісты "Марыі" забілі два галы і ніводнага не прапусцілі. За "Марыю" ігралі: Яўген Ганін, Міхаіл Галавін, Вадзім Янучок, Віталь Сімусёў, Мікалай Збароўскі, Артур Малафей, Вадзім Несцер, Дзмітрый Шаўчэнка.

Пераможцы фінальных сустрэч атрымалі прызы — кубкі касцёла св.Андрэя і торты. Адзначаны былі ў некалькіх намінацыях і лепшыя ігракі турніра, якія атрымалі каштоўныя падарункі (спонсар — Мікалай Лажэчнікаў). А галоўнае — для многіх слонімскіх хлапчукоў на два тыдні было арганізавана маленькае свята.

**Сяргей ЁРШ**

**Фота Мікалая СУПРУНА**



**Па выніках турніру прызамі былі адзначаны:**

**малодшая група**

лепшы ігрок — Дзмітрый Грашоўкін ("Марыя")

лепшы бамбардзір — Васіль Цімафейчык (ДЮСШ-2, 17 галоў)

лепшы варатар — Сяргей Берг ("Дынама")

лепшы капітан — Андрэй Герка ("Дынама")

за першы гол — Дзмітрый Грашоўкін ("Марыя")

за самы прыгожы гол — Віталь Лунь ("Марыя")

за апошні гол — Сяргей Скляр ("Дынама")

**старэйшая група**

лепшы ігрок — Міхаіл Галавін ("Марыя")

лепшы бамбардзір — Яўген Ганін ("Марыя", 15 галоў)

лепшы варатар — Апанасік ("Штутгарт")

лепшы капітан — Дзмітрый Клыбік ("Спартак")

за першы гол — Яўген Ганін ("Марыя")

за самы прыгожы гол — Скіруха ("Шылавічы")

за апошні гол — Вадзім Янучок ("Марыя")

Лепшым трэнерам у малодшай групе быў прызнаны Руслан Корнеў ("Дынама"), а ў старэйшай — Рыгор Чарнышоў ("Спартак").

# ЦІ ПАТРЭБНЫ НАМ ЛЕГІЯНЕРЫ?

Ужо другі год запар турнір па міні-футболу для дзіцячых каманд арганізоўвае слонімскі прадпрымальнік Мікалай Лажэчнікаў. Ён стварыў футбольны клуб "Марыя" з аднайменнымі дзіцячымі камандамі. Мікалай Уладзіміравіч згадзіўся трохі расказаць пра сябе і планы свайго клуба.

—Я нарадзіўся ў Слоніме ў 1956 годзе. Скончыў школу №6, служыў у арміі. Каля 12 гадоў працаваў на Поўначы, а, пасля вяртання ў Слонім, займаюся бізнесам. У мяне вялікая сям'я — 5 дзяцей...

"Вырас" я на стадыёне, з дзяцінства быў улюблёны ў спорт, тым больш — у футбол. Канешне, трэба рыхтаваць сваіх слонімскіх футбалістаў, каб наша каманда майстроў папаўнялася не толькі за кошт легіянераў. Але хто гэта будзе рабіць? Нашы спартыўныя школы не дастаткова фінансуюцца, каб па-сапраўднаму рыхтаваць сваю моладзь.

Праблем хапае і ў нас. Форму для сваіх хлопцаў купіў за свае грошы. Шукаю і працягваю шукаць спонсараў, якія б дапамаглі развіццю дзіцячага футбола ў Слоніме, а ў прыватнасці, футбольнаму клубу "Марыя". Дарэчы, пасля заканчэння турніру ў нас будзе новы набор хлопчыкаў 1984, 1985, 1986 і 1987 гадоў нараджэння. Усе жадаючыя могуць прыходзіць да нас на трэніроўкі, якія адбываюцца кожныя аўторак, сераду і чацвер у 17.00 на футбольным полі касцёла св.Андрэя.

**С.Ё.**



**Каманда «Марыя», у цэнтры — М.Лажэчнікаў**



**Каманда «Дынама», у цэнтры — Р.Корнеў**

**8 ФУТБОЛ** *высшая лига*

# УПРЯМАЯ ФОРТУНА

**Коммунальник (Слоним) — Неман (Гродно) — 1:2**

**Слоним. 14 июня. Стадион "Юность". 2500 зрителей.**

**Судья Вадим Жук (международная категория, Минск).**

**Коммунальник: Киркиж, Хмелев (Шупилов, 46), В.Дегиль, А.Дегиль (к), Дым, Янковский, Пашкевич (Цыбулько, 66), Савицкий (Татарашвили, 64), Киреня, Колядчик, Савонь.**

**Голы: А.Дегиль (29), Давидович (57), Цыбуль (75).**

**Предупреждения: Савицкий (Коммунальник); Кривонос, Таращик, Борисейко (Неман).**

**Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": *лучший игрок* — Анатолий Дегиль, *бомбардир* — Савонь (2), *лучший новичок* — нет.**

С тревогой и надеждой ждали болельщики этот матч. Многие задавались вопросом: смогут ли наши футболисты найти игру? Вроде бы смогли. А вот результата по-прежнему нет...

А начиналось все неплохо. На 14 минуте в перекладину бьет Анатолий Дегиль. Вскоре две отличные возможности открыть счет упускает Савицкий. А на 29 минуте индивидуальное мастерство продемонстрировал Анатолий Дегиль, который точным ударом завершил свой сольный проход — 1:0! Этот долгожданный гол принес не мало радости болельщикам и футболистам. Еще бы, ведь на слонимском стадионе наши не забивали с 18 апреля!

Гости не отсиживались в обороне, а искали удачи у ворот "Коммунальника". Удары сыпались один за одним. В один момент Николай Дым чудом выбивает мяч из пустых ворот... А затем здорово сыграл Олег Савицкий, который "выцарапал" мяч у защитника "Немана", прошел к воротам и прострелил на Савоня, а тот из отличной позиции промахнулся...

Не счесть сколько стопроцентных моментов имели в тот вечер обе команды. А сколько было выходов один на один с вратарями!.. И вот на 57 минуте гости забивают в наши ворота мяч, который вызвал горячие споры. По той причине, что судья Жук «не заметил» почему-то лежащего на газоне нашего футболиста, а затем и офсайда, о котором вначале сигнализировал судья на линии.

Такой поворот игры (после стольких упущенных моментов!) был холодным душем для слонимчан и в переносном, и в прямом смысле (дело в том, что начался дождь, который продолжался до конца игры). А вот футболисты "Немана" воодушевились, продолжали остро атаковать и вновь добились успеха — 1:2. "Коммунальник" мог отыграться. В конце матча Татарашвили точно под перекладину отправил мяч со штрафного, но Рыбак его отбил. Обидное поражение...

**Сергей ЁРШ**

**ТУРНИРНАЯ ТАБЛИЦА**

**ПОСЛЕ 11-ГО ТУРА**

| | | И | В | Н | П | М | 0 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Днепр-Трансмаш (Могилев) | 11 | 8 | 1 | 2 | 28-6 | 25 |
| 2. | Торпедо (Минск) | 11 | 7 | 4 | 0 | 22-5 | 25 |
| 3. | Торпедо-Кадино (Могилев) | 11 | 6 | 2 | 3 | 17-13 | 20 |
| 4. | Динамо (Минск) | 11 | 6 | 1 | 4 | 15-10 | 19 |
| 5. | Белшина (Бобруйск) | 11 | 5 | 3 | 3 | 17-6 | 18 |
| 6. | Локомотив-96 (Витебск) | 11 | 5 | 3 | 3 | 13-8 | 18 |
| 7. | БАТЭ (Борисов) | 11 | 5 | 3 | 3 | 16-13 | 18 |
| 8. | Гомель | 11 | 5 | 3 | 3 | 13-11 | 18 |
| 9. | Славия (Мозырь) | 11 | 5 | 2 | 4 | 15-17 | 17 |
| 10. | Динамо-93 (Минск) | 11 | 4 | 4 | 3 | 17-13 | 16 |
| 11. | Динамо (Брест) | 11 | 4 | 1 | 6 | 12-14 | 13 |
| 12. | Неман (Гродно) | 11 | 3 | 3 | 5 | 8-16 | 12 |
| 13. | Шахтер (Солигорск) | 11 | 3 | 3 | 5 | 9-18 | 12 |
| 14. | Нафтан-Девон (Новополоцк) | 11 | 2 | 2 | 7 | 11-22 | 8 |
| 15. | Молодечно | 11 | 1 | 0 | 10 | 8-26 | 3 |
| 16. | Коммунальник (Слоним) | 11 | 0 | 3 | 8 | 5-28 | 3 |

**СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98 СЕЗОН-98**

**РЕЗУЛЬТАТЫ ОСТАЛЬНЫХ МАТЧЕЙ 11 ТУРА:**

| | |
|---|---|
| Шахтер — Торпедо Мн | — 0:3 |
| Локомотив-96 — Динамо-93 | — 3:0 (неявка гостей) |
| Нафтан-Девон — Динамо Мн | — 0:2 |
| БАТЭ — Белшина | — 1:0 |
| Торпедо-Кадино — Динамо Бр | — 1:0 |
| Молодечно — Славия | — 0:1 |
| Днепр-Трансмаш — Гомель | — 3:0 |

**Динамо Мн. — Коммунальник — 3:0**

Минск. Стадион "Динамо". 10 июня. 500 зрителей.

Судья М.Архипов (нк, Жодино)

Коммунальник: Трусило, Капанец, В.Дегиль, А.Дегиль, Дым, Янковский (Татарашвили, 60), Цыбулько, Савицкий, Баль (к, Киреня, 24), Колядчик (Врублевский, 69), Савонь.

Голы: Володенков (40), Лобанов (68), Лагодич (86).

На 89-й минуте Татарашвили не реализовал пенальти за снос Капанца.

Предупреждения: Остриков, Довнар, Володенков (Динамо Мн); Цыбулько (Коммунальник).

***Конкурс "ГС" и ООО "Телкон": лучший игрок — нет, бомбардир — Савонь (2), лучший новичок — нет.***

# СВЕТЛАЙ ПАМЯЦІ

**НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ АДЫШЛІ НАЗАЎЖДЫ:**

| | |
|---|---|
| **Туптала** Міхаіл Іосіфавіч | 1955 г.н. |
| **Маразоўскі** Міхаіл Міхайлавіч | 1954 г.н. |
| **Казадаеў** Алег Паўлавіч | 1932 г.н. |
| **Мазур** Васіль Пятровіч | 1922 г.н. |
| **Герасімчык** Станіслаў Іванавіч | 1932 г.н. |
| **Ганчарык** Міхаіл Вікенцьевіч | 1923 г.н. |
| **Бабахаў** Мікалай Мікалаевіч | 1959 г.н. |
| **Сыч** Любоў Паўлаўна | 1909 г.н. |
| **Стралкоўскі** Аляксей Аляксеевіч | 1932 г.н. |
| **Канькова** Настасся Міхайлаўна | 1914 г.н. |
| **Клыбік** Валянцін Аляксандравіч | 1967 г.н. |
| **Пацэнка** Надзея Іванаўна | 1929 г.н. |
| **Андраенкаў** Дзмітрый Уладзіміравіч | 1976 г.н. |
| **Васілеўскі** Аляксандр Іванавіч | 1941 г.н. |
| **Дараховіч** Станіслаў Паўлавіч | 1934 г.н. |

Выражаем соболезнование

**Шенделевой Наташе и ее семье**

в связи со смертью ее

**ОТЦА**.

*Ученики и кл. руководитель 8 «В» класса.*

Паважаныя

**Ірына Тадэушаўна, Аляксандр Аляксандравіч і Волечка Васілеўскія!**

У час глыбокага смутку прыміце нашы шчырыя спачуванні з прычыны вялікай страты — смерці Вашага

**СВЁКРА, БАЦЬКІ І ДЗЯДУЛІ.**

*Настаўнікі рускай мовы і літаратуры СШ №8.*

© PDF: Kamunikat.org 2016 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2016

